23 ЧЭРВЕНЯ 1999г. СЕРАДА

# НАВІНЫ

№69 (600) КОШТ СВАБОДНЫ




# Знікненне галоўнага металурга

## Генеральны дырэктар БМЗ Юрый Феактыстаў скрадзены альбо арыштаваны

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**Раніцай у панядзелак па дарозе на працу быў затрыманы Юрый Феактыстаў, генеральны дырэктар буйнейшага ў краіне прадпрыемства — Беларускага металургічнага завода. Па звестках са Жлобіна, захоп гендырэктара праходзіў у стылі амерыканскіх баевікоў — машыну заблакіравалі ўзброеныя супрацоўнікі спецслужбаў. Застаецца аднак нявысветленым, якая структура правяла «бліскучую» аперацыю і што інкрымінуецца кіраўніку флагмана беларускай прамысловасці.**

Самае цікавае, што афіцыйна Феактыстаў быццам бы на волі. Ва ўсякім разе, да дзвюх гадзінаў дня ў аўторак ніводная з слаўных структураў не пацвердзіла карэспандэнту НАВІНАЎ сваю адказнасць за затрыманне кіраўніка БМЗ. У прэс-службах КДБ, Савета бяспекі і міністэрства ўнутраных справаў сцвярджалі, што не маюць дачынення да гэтага затрымання, ці жартавалі: «ён на дачы, але не на той, дзе працуюць, а на той, дзе даюць паказанні».

«Не выключана, што Юрый Васільевіч затрыманы часова. Разбяруцца», — не хаваў аптымізму ў размове з карэспандэнтам НАВІНАЎ тэхнічны дырэктар БМЗ Аляксандр Фаменка. Праўда, ён не сказаў, ад каго яму ўвогуле вядома пра затрыманне Феактыстава і, тым больш, у чым ён падазраецца. «Хіба ў нас не бывае, што затрымаюць невінаватага, а пасля разбяруцца і адпусцяць?» — апраўдваў невядома каго Аляксандр Фаменка.

Юрыю Феактыставу 61 год, 10 апошніх ён кіраваў Беларускім металургічным заводам — найбуйнейшым не толькі ў Беларусі, а нават у Еўропе. У Беларусь Феактыстаў прыехаў у сярэдзіне 80-х з Арла і хутка зрабіў тут кар'еру. Ходзяць чуткі пра ягоныя надзвычай цесныя сувязі з беларускай кіруючай элітай — называюць Кебіча, Мясніковіча, а таксама і з расійскімі лідэрамі — у прыватнасці, кажуць пра Ягора Строева.

Сярод магчымых прычынаў арышту Феактыстава найбольш верагоднымі называюць версіі аб метале і валюце. БМЗ выраблае добры пракат, які прыносіць краіне нямала валюты — магчыма, нейкая яе частка аказалася не там дзе трэба. Узгадваецца таксама, што прадпрыемства займалася перапрацоўкай металалому, у тым ліку танкавай брані. Праверкай гэтай дзейнасці нядаўна займаліся кантралюючыя органы, і не дзіва, што арышт Феактыстава даў падставы меркаваць — кантралёры нешта знайшлі. Але, па інфармацыі з іншых крыніцаў, «металаломная» праверка нічога не дала, і хутчэй за ўсё, Феактыставу шыюць усё ж валютную справу. У прыватнасці, узгадваецца, што з дапамогай жлобінскага металу пэўныя фірмы браліся закрыць нашыя энергадаўгі, а ў выніку і даўгі засталіся, і грошы за метал зніклі. У падмацаванне гэтай версіі з'явіліся чуткі пра арышт у Мінску аднаго вядомага прадпрымальніка, які актыўна супрацоўнічаў з БМЗ.

Арышт Феактыстава — не апошні ў шэрагу распраў з «зубрамі» беларускай прамысловасці. Таксама сцвярджаюць набліжаныя да ўладных колаў крыніцы. Па іх звестках, гэткі ж лёс можа хутка напаткаць некаторых кіраўнікоў буйных аўтамабільных прадпрыемстваў краіны. «Барацьба за кантроль над ключавымі заводамі, якая даўно вядзецца паміж кланамі старой, яшчэ кебічаўскай наменклатуры і новымі магілёўскімі «ваўкамі», пайшла ў апошні час не на жыццё, а на смерць», — упэўненыя нашыя крыніцы. ■


Фота Ул.ШЛАПАКА

Колькі дзён, месяцаў ці нават гадоў праўдзе **Юрый Феактыстаў** за кратамі — невядома

# Лысая Гара

Пётра КАЖАНЕЦ, Уладзімір ШЛАПАК (фота)

**Месца, дзе некалі збіраліся ведзьмы, увайшло ў гісторыю беларускай літаратуры дзякуючы паэме пра дачныя прыгоды беларускіх пісьменнікаў.**

Акрэсленне «ведзьма» паходзіць ад слова «веды», «ведаць». У часы матрыярхату, відаць, так называлі жанчын, якія кіравалі родам. Пераход да патрыярхату дазволіў мужчынам адпомсціць за тысячагадовы прыгнёт, надаўшы слову «ведзьма» адмоўнае значэнне, але захаваўшы ранейшую боязь перад жаночай сілай. Таму Лысая Гара, дзе з часоў матрыярхату было паганскае капішча, абкружаная арэолам таямніцы. ►

Заканчэнне на стар.4


Лысагорскі кут **Рыгора Барадуліна**. Наш знаны паэт яго збудаваў, але вельмі рэдка наведвае

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Вадасховішчы закрываюцца

Па выніках спецыяльнай бактэрыялагічнай экспертызы галоўны ўрач Цэнтральнага раёна горада Мінска вынес пастанову аб забароне з 21 чэрвеня купання ў Камсамольскім возеры і вадасховішчы Дразды. Прычынаю закрыцця стаў імклівы рост кішэчнай палачкі, што пагражае перш за ўсё дызентэрыяй. З 23 чэрвеня закрываецца і самы папулярны вадаём у мінчукоў — Мінскае мора.

*Аляксей ШЫДЛОЎСКІ*

### Президентский подарок Клинтону

Борис Ельцин передал своему американскому коллеге Биллу Клинтону 80 документов из архива президента и российского МИДа, связанных с убийством Джона Кеннеди. По словам заместителя главы администрации президента Сергея Приходько, эти документы связаны с пребыванием в СССР Ли Харви Освальда, которого считают убийцей Кеннеди. Стоит напомнить, что Ли Харви Освальд некоторое время жил в Минске и был женат на белоруске.

*Егор ИВАНОВ*



## НАДВОР'Е




**24 чэрвеня** па **Брэсцкай** і **Гродзенскай** абласцях чакаецца пераменная воблачнасць, кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Вецер паўднёва-ўсходні, 6—11 м/с, пры навальніцах парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ўначы +14—+19. Па **Гомельскай**, **Магілёўскай** і **Віцебскай** абласцях пераменная воблачнасць, па асобных раёнах кароткачасовыя дажджы. Вецер усходні, 5—10 м/с. Тэмпература паветра ўначы +13—+18. Па **Мінскай** вобласці чакаецца пераменная воблачнасць, па асобных раёнах кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер усходні, 6—11 м/с, пры навальніцах парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ўначы +13—+18.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**435 000**

## СЕРАДА з Аляксандрам ДУБРАВІНЫМ



### Беларусы і беларусцы

«Пакуль мы шчыра радуемся сонечнаму лету, паліваем грады, купаемся і гуляем з дзецьмі сярод лістоты і кветак, пакуль мы стараемся адпачыць ад бруднай палітыкі, — у цёмных, гнілых і склізкіх сутарэннях бюракратычнага апарату рыхтуецца здрада. Некалькі потных, хворых, мітуслівых людзей без сораму, сумлення і гонару пішуць сакрэтныя пратаколы аншлюсу Расіяй нашай святой Радзімы. Таемна ад сумленных людзей яны абмяркоўваюць з Масквой умовы здачы беларускай незалежнасці ў абмен на свае трыццаць сярэбранікаў...»

Тут няма навіны для цябе, чытач. Ты ведаеш: каторы ўжо год рыхтуецца альянс Лукашэнкі з Масквой у абмен на незалежнасць Беларусі. Але ж прыведзены вышэй урывак гучыць нязвыкла, перш за ўсё, таму, што мы рэдка называем рэчы сваімі імёнамі. Сродкі масавай інфармацыі фактычную здачу незалежнасці краіны падаюць як фігу на талерцы з гарнірам са словаў «саюз», «братэрства», «канфедэрацыя», «агульныя інтарэсы» і г.д. За гарнірам не бачна сутнасці. Нас паволі прывучаюць да несвабоды, як каня да хамута. Кось-кось — і ў стойла.

Між тым, сутнасць з'явы ад парадку і колькасці словаў у сказах не мяняецца, як яе ні ўпрыгожвай. Здрада — яна таму і здрада, што рыхтуецца таемна, без усеагульнага свабоднага абмеркавання, без законнага парадку прыняцця, без уліку інтарэсаў усіх членаў грамадства.

Антынародны, антызаконны, антымаральны «саюз» з Масквой таемна рыхтуецца да подпісу. Робяць гэта нашыя суайчыннікі, звычайныя людзі. На вуліцы сустрэнеш — не звернеш увагі. Галава, рукі, ногі. Іх, як і цябе, чытач, выкарміла і вырасціла гэтая зямля. Але ў іх асаблівае прызванне. Прызванне лётчыка, напрыклад, — лятаць сярод аблокаў, шахцёра — здабываць сільвініт, паэта — пісаць паэмы і вершы. Прызванне гэтых людзей — гандляваць сваёй радзімай. Кожнаму сваё. Заўсёды так было: адныя, сцякаючы крывёй, бароняць горад ад ворага, другія ноччу адчыняюць вароты за мяшэчак срэбра.

Заўсёды былі беларусы і беларусцы. Героі і паліцаі. Працаўнікі і захрыбетнікі. І беларусаў заўсёды было больш.

# У СНД — свая «Алімпіяда»

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Сёння а 17-й гадзіне на мінскім стадыёне «Дынама» пройдзе ўрачыстае адкрыццё першых Міжнародных Спартыўных Гульняў.

Падчас адкрыцця адбудуцца парад удзельнікаў спаборніцтваў, паказальныя выступы ў асобных відах спорту і футбольны матч паміж камандамі беларускіх і расійскіх ветэранаў футбола. Гульні, на арганізацыю якіх затрачана крыху больш за 13 мільярдаў рублёў, на думку арганізатараў, павінны ўмацаваць рэпутацыю Беларусі як спартыўнай краіны, а таксама садзейнічаць развіццю яшчэ больш цесных кантактаў паміж дзесяццю краінамі-ўдзельніцамі, большая частка якіх — краіны СНД. «Далёкае» замежжа прадстаўляюць толькі Эстонія і Туніс, затое Саратаўская вобласць Расіі будзе выступаць сваёй асобнай камандай. У самы апошні момант па фінансавых прычынах адклікалі пададзеныя заяўкі Грузія і Малдова.

Удзельнічаць у гульнях, па задумцы арганізатараў, будуць не прафесіяналы, а аматары, у тым ліку спартыўныя сем'і і ўвогуле ўсе, хто пажадае. Галоўнае, па меркаванні сябраў аргкамітэта, — не спартыўныя вынікі, а факт правядзення гульняў.

Падчас спаборніцтваў, якія працягнуцца пяць дзён, запланаваны таксама міжнародны кангрэс па праблемах развіцця спорту, міжнародны фестываль спартыўных фільмаў і напрыканцы гульняў баль удзельнікаў спаборніцтваў. ■

# Да Старавойтава не пускаюць

Генадзь БАРБАРЫЧ

Суддзя Кіраўскага раённага суда Надзея Чмара адмовіла прадстаўнікам Беларускага Хельсінкскага камітэта Гары Паганяйлу і Святлане Мартоўскай у сустрэчы з экс-старшынёй аграпрамысловага аб'яднання «Рассвет» Васілём Старавойтавым, асуджаным да 2 гадоў пазбаўлення волі. «Закон не ўтрымлівае ўказанняў на магчымасць прадастаўлення спаткання з прадстаўнікамі грамадскіх арганізацыяў», — сказана ў адказе суддзі. ■



Фота Ул.ШЛАПАКА

КАНФЕСІІ

# Касцёлы жадаюць весці літургіі на беларускай мове

Канстанцін УВАРАЎ, БелаПАН

У Бабруйску завяршыла працу 5-я сесія сінода Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі. Цэнтральным пытаннем, якое абмяркоўвалася на сесіі, стала змяненне парадку правядзення каталіцкай царкоўнай службы і літургіі на тэрыторыі Беларусі. Змены датычацца, перш за ўсё, мовы, на якой вядзецца царкоўная служба. На думку многіх святароў, для таго, каб парафіяне лепш разумелі сутнасць літургіі, яна павінна ісці на беларускай мове. ■

КАМЕНТАР СПЕЦЫЯЛІСТА

# Беларусь не ў стане выявіць дыяксін у прадуктах харчавання

Дзмітрый УЛАСАЎ

Беларусь не можа самастойна праводзіць аналізы на выяўленне ў прадуктах харчавання дыяксіну — рэчыва, якое правакуе анкалагічныя захворванні. Аб гэтым заявіў намеснік міністра аховы здароўя краіны Валерый Філонаў.

Паводле ягоных словаў, кошт аднаго прыбора для правядзення аналізаў складае 200 тысяч долараў ЗША, а кошт аднаго аналізу — ад адной да дзвюх з паловай тысяч долараў ЗША. У сувязі з дарагоўляй аналізаў, заявіў намеснік міністра, адзіным бар'ерам на шляху заражанага дыяксінам мяса з'яўляецца ўведзеная забарона на яго імпарт з краінаў Еўропы і Балтыі.

Паводле інфармацыі В.Філонава, пасля 18 сакавіка 1999 года курынае мяса з Бельгіі ў Беларусь не завозілася. Адказваючы на пытанне карэспандэнта БелаПАН аб рэакцыі міністэрства аховы здароўя на паведамленні аб атручванні бельгійскіх школьнікаў «Кока-колай», В.Філонаў заявіў, што «ўжо накіраваныя неабходныя афіцыйныя запыты, у тым ліку ў Расію, для атрымання поўнай інфармацыі пра гэта». ■

КРЫМІНАЛ

# Перакрытыя шляхі гандлю зброяй

Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН

Беларуская ваенная пракуратура расследуе крымінальную справу, узбуджаную па факце нядаўняга выяўлення ў адным з памяшканняў, што выкарыстоўваюцца камерцыйнай структурай на тэрыторыі ваеннага палігона ва Уруччы на ўскраіне Мінска, шасці авіяцыйных рухавікоў ад знішчальнікаў МіГ-29.

Як паведаміў намеснік ваеннага пракурора палкоўнік юстыцыі Аляксандр Піляўскі, стала вядома, што ў 1995 годзе злачыннай групай, у якую ўваходзілі былыя работнікі КДБ СССР і штаба Ваенна-паветраных сілаў, у Расіі была скрадзеная авіяцыйная маёмасць на суму некалькіх мільярдаў долараў ЗША. Асноўная маса выкрадзенага праходзіла праз тэрыторыю Беларусі, якая з'яўлялася своеасаблівай перавалачнай базай, не толькі на Захад. Так, паводле словаў А.Піляўскага, згодна з дакументамі, знойдзеныя рухавікі для баявых самалётаў коштам 2 мільёны долараў ЗША прадугледжвалася адправіць у Алжыр і Паўночную Карэю. У Мінск рухавікі прыбылі з Брэсцкай вобласці і па дакументах праходзілі як рухавікі для самалётаў грамадзянскай авіяцыі.

Па дамоўленасці з расійскім бокам рухавікі застануцца ў Беларусі, яны перададзеныя на захоўванне ў вайсковую часць у пасёлку Мачулішчы Мінскага раёна. ■

ЦЫТАТА НУМАРА

> **Увы, как отмечалось на коллегии, у нас процветает однобокий туризм. От нас едут к ним.**
>
> *Евгений СУЛЫГА «Советская Белоруссия», 22 июня 1999г.*

# Рэха Нямігі

Марат ГАРАВЫ

Вучаніца адной з мінскіх школаў, пацярпелая падчас трагедыі ў падземным пераходзе станцыі метро «Няміга», працягвае знаходзіцца ў рэанімацыі. Паводле словаў урача, пацыентка практычна тры тыдні была без прытомнасці, і яе жыццяздольнасць падтрымлівалася з дапамогай спецыяльнай апаратуры. Аднак зараз стан дзяўчыны намнога лепшы. Разам з тым, адзначыла ўрач, сітуацыя ўскладняецца тым, што з-за працяглага кіслароднага галадання, выкліканага моцным сцісканнем грудной клеткі, у галаўным мозгу пацярпелай адбыліся незваротныя змяненні. ■

# У хлебе знайшлі ртуць

Валянціна КАЗЛОВІЧ

У Івацэвіцкім раёне зафіксаваны абуральны факт. У хлебе, выпечаным у пякарні пасёлка Целяханы, знойдзеныя шарыкі ртуці.

Жыхар раёна, які купіў у магазіне хлеб, і падумаць не мог, што той тоіць такую небяспеку. Калі за абедзенным сталом заўважыў у мякішы і скарынцы шарыкі ртуці, тут жа, абураны, пазваніў у рэдакцыю мясцовай газеты «Івацэвіцкі веснік». Журналісты адрэагавалі аператыўна і папрасілі прадстаўнікоў санітарна-эпідэміялагічнай службы праверыць гэты факт. Разам з імі паглядзець на «цуд» паехалі таксама прадстаўнікі Івацэвіцкага камбіната кааператыўнай прамысловасці, у склад якога ўваходзіць целяханская пякарня. Сігнал пацвердзіўся: у хлебе сапраўды была ртуць.

Цяпер вядзецца расследаванне — праваахоўныя органы і кіраўніцтва камбіната спрабуюць высветліць, якім чынам ртуць трапіла ў хлеб і ці быў гэты атрутны бохан адзіным у выпечцы пякарні. ■

# Гіне на працы ўсё больш

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

Магілёўская вобласць – лідэр краіны па вытворчым траўматызме.

Пра гэтае сумнае лідэрства сведчыць няўмольная статыстыка. З пачатку году на прадпрыемствах вобласці загінуў 21 чалавек (у мінулым годзе за такі ж перыяд было ўдвая менш). Паранена ці атрымала сур'ёзныя траўмы 34 чалавекі (адпаведна 28 у 1998 годзе).

Асноўны «ўнёсак» зрабіла сельская гаспадарка — 30% усіх выпадкаў. Зношаная і шмат разоў рамантаваная тэхніка, а таксама ўласная неабачлівасць людзей з'яўляюцца галоўнымі прычынамі вытворчых трагедыяў. Акрамя таго, апошнімі гадамі злавесна вылучаецца праблема няўважлівага стаўлення прадпрыемстваў да выканання правілаў тэхнікі бяспекі. ■

# Іван Ціцянкоў атрымаў 29 мільярдаў бюджэтных рублёў

Ягор ЗВОННІКАЎ

Савет міністраў вырашыў выдзеліць упраўленню справамі прэзідэнта 29 млрд. рублёў з бюджэтных сродкаў. 14 млрд. рублёў выдзяляюцца «для тэхнічнага аснашчэння залы паседжанняў Савета міністраў Рэспублікі Беларусь» і 15 млрд. — «для прывядзення ў гатоўнасць урадавых пунктаў кіравання». ■

# На пасаду прэзідэнта прэтэндуюць 19 чалавек

Аддзел інфармацыі

У Кіеве завяршылася рэгістрацыя прэтэндэнтаў у кандыдаты на пасаду прэзідэнта Украіны. Як паведаміла агенцтва УНІАН, усяго зарэгістравана 19 прэтэндэнтаў з 32 вылучаных; з іх 15 з'яўляюцца дэпутатамі Вярхоўнай Рады Украіны. Паводле звестак Цэнтральнай выбарчай камісіі, у ЦВК ужо перададзеныя падпісныя аркушы ў падтрымку кандыдатураў дзеючага прэзідэнта Леаніда Кучмы і лідэра кампартыі Украіны Пятра Сіманенкі. У падтрымку Л.Кучмы сабрана каля 1 млн. 900 тыс. подпісаў выбаршчыкаў; у падтрымку П.Сіманенкі — 1 млн. 305 тысяч. Выбары прэзідэнта Украіны адбудуцца сёлета ў кастрычніку. ■

# Лячыць хворых няма чым

Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН

Доўг лячэбных установаў міністэрства аховы здароўя за энергарэсурсы, прадукты харчавання і медыкаменты склаў два трыльёны рублёў. 700 мільярдаў з гэтай сумы прыпадаюць на даўгі за лекавыя сродкі. Дэфіцыт валюты выклікае недахоп шэрагу неабходных прэпаратаў замежнай вытворчасці, у прыватнасці, для анкалагічных хворых. Доля ж айчынных лекавых сродкаў на фармацэўтычным рынку краіны застаецца на нізкім узроўні — каля 30 працэнтаў. Акрамя таго, частку беларускіх лекаў даводзіцца накіроўваць у Расію. ■

СКАНДАЛ

# Калегі і сябры Някляева ў разгубленасці

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

Вестка аб тым, што старшыня рады Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзімір Някляеў вырашыў папрасіць палітычнага прытулку ў Польшчы, была для ягоных калегаў-літаратараў неспадзяванай. Большасць з іх адмаўляліся каментаваць гэты крок свайго старшыні, паколькі ўсе акалічнасці эміграцыі Някляева да гэтага часу застаюцца нявысветленымі. Хутчэй за ўсё, шэф беларускіх пісьменнікаў пакуль толькі мае намер застацца ў Польшчы, якім падзяліўся з групай беларускіх журналістаў. Дарэчы, у вядучых СМІ Польшчы ўчора яшчэ нічога не ведалі аб тым, што Уладзімір Някляеў збіраецца прасіць палітычнага прытулку ў іхняй краіне. Па нашых звестках, не звяртаўся ён пакуль і ў дэпартамент па справах міграцыі і ўцекачоў польскага МУС, які займаецца прадастаўленнем прытулку іншаземцам. Хутчэй за ўсё, сітуацыя стане больш яснай у бліжэйшыя дні, калі Уладзімір Някляеў праявдзе ў Варшаве сваю афіцыйную прэс-канферэнцыю.

Мы папрасілі пракаментаваць сітуацыю вакол старшыні рады Саюза пісьменнікаў ягонага першага намесніка Вольгу Іпатаву і старшыню дзяржкамітэта па друку Міхаіла Падгайнага.

**Вольга ІПАТАВА:**



— Цяжка нешта каментаваць, пакуль мы не ведаем дакладнай пазіцыі самога Уладзіміра Някляева. Пакуль, да 6 ліпеня, афіцыйна ён знаходзіцца ў адпачынку. Мы ўжо спрабавалі звязацца з Уладзімірам у Варшаве, але ягоны тэлефон не адказвае. Таму пакуль мне цяжка сказаць, што будзе далей. Ён і ў адпачынак сышоў неяк раптоўна — яшчэ ў пятніцу, два тыдні таму, я з ім размаўляла, і Някляеў нічога аб сваіх намерах не казаў, а ў панядзелак ужо сышоў адпачываць. Хаця, з другога боку, чалавека, які перанёс інсульт, можна зразумець. Таму мы пачакаем, што ж скажа сам Уладзімір, і далей будзем дзейнічаць па сітуацыі. Магчыма, склічам раду Саюза і будзем нешта вырашаць. Дзіўна толькі, што інфармацыя аб магчымай эміграцыі Някляева з'явілася менавіта цяпер, калі пісьменніцкі саюз яшчэ не прайшоў перарэгістрацыю. Для нас вельмі важна захаваць Саюз як асяродак беларускай нацыянальнай ідэі і не даць выкарыстаць яго ў іншых мэтах.

**Міхаіл ПАДГАЙНЫ:**



— А што пакуль каментаваць, калі ніякай афіцыйнай інфармацыі няма? Ні з нашай амбасады ў Варшаве, ні з польскага боку, ні ад самога Някляева. Аб гэтым напісалі толькі вашая газета і БДГ. Валодзя вельмі дрэнна сябе адчувае і таму лечыцца ў Варшаве. У мінулы аўторак ён мне тэлефанаваў, і я яму сказаў: «Валодзя, лячыся і не думай ні аб чым, акрамя свайго здароўя». Так, сапраўды, нашае ведамства праводзіла ў рэдакцыі часопіса «Крыніца», якім кіраваў Някляеў, плнавую штокварталъную рэвізію, і былі выяўлены некаторыя парушэнні ў фінансавай дзейнасці. Кшталту неапрыходаваных матэрыялаў, недахопаў бухгалтэрыі, няправільнае налічэнне ганарараў. Дык такія ж парушэнні ёсць і ў іншых рэдакцыях, і нікога за гэта ў турму не саджаюць — выносім вымовы, і рэдактары выпраўляюць недахопы. Зразумейце, Някляеў паэт, а не гаспадарнік, і нельга патрабаваць ад яго ідэальнага гаспадарання. Хутчэй за ўсё, Някляеў зараз знаходзіцца ў вельмі ўзрушаным эмацыйным стане, што ўласціва для чалавека пасля такой цяжкай хваробы, як у яго. Таму я вельмі хачу, каб ён мне патэлефанаваў, і мы б вырашылі ўсе пытанні. Мы сябруем з Валодзем ужо больш за 20 гадоў, і я хачу яму сказаць, каб ён хутчэй папраўляўся, перастаў маяцца дур'ю і прыязджаў на радзіму. ■

# «Косим» под евростандарты?

## Верхнедвинская вертикаль приступила к расчистке пути в Европу

Валерий ЩУКИН, правозащитник

О принудительном труде, широко практикуемом президентской вертикалью в провинциальных регионах Беларуси, писалось уже неоднократно. И потому сообщение, поступившее из Верхнедвинского района, сенсационным не было. Позвонивший рассказал, что по распоряжению нового районного начальства каждому работнику райцентра, вне зависимости от пола, возраста и семейного положения, приказано накосить и сдать тонну травы.

Заместитель председателя Верхнедвинского райисполкома Александр Марейко пояснил, что распоряжение такое действительно есть, но разнарядка установлена не в тоннах, а в метрах и километрах проходящей через территорию района автострады Орел—Рига, вдоль которой районные предприятия и организации должны выкосить всю траву. По мнению Верхнедвинской вертикали, белорусские дороги должны иметь европейский вид. И сам зампредисполкома тоже целый день отмахал косой.

Вообще-то европейская дорога — это прежде всего качество дорожного покрытия, а не внешний вид придорожного кювета. Тем не менее личный пример начальства можно только приветствовать. Но скошенная трава вдоль автотрассы с интенсивным движением буквально пропитана свинцом и другими тяжелыми металлами. Все эти опасные для организма вещества через корм из придорожной травы окажутся в молоке, которое мы будем употреблять в пищу.

Вертикальщик А.Марейко об этом знает, но качество молока его не волнует. Получается, что для вертикальщика главное — лишь вид дорожных откосов и количество заготовленного сена для коров. Похоже, ни за свинец, ни за диоксин, ни за все прочие запрещенные к наличию в продуктах питания вещества с должностных лиц не спрашивают.

По ходу разговора выяснилось также, что для президентской вертикали Верхнедвинска Конституция государства не является ни настольной книгой, ни Основным законом. Зампредисполкома А.Марейко и слышать не хочет о том, что в Республике Беларусь принудительный труд запрещается (статья 41 Конституции). У руководства района нет денег на оплату придорожных работ, и потому оно считает себя вправе заставлять жителей глубинки трудиться принудительно. К слову, столичная вертикаль делать так не рискует — горожане могут взбунтоваться. А провинция пока молчит... ■

ТЭНДЭНЦЫІ

# Як нас абкрадваюць

## Этапы эканамічных «дыверсіяў» функцыянераў «Белкаапсаюза»

Надзея СВЯТЛІЧНАЯ

Разабрацца з «Белкаапсаюзам» прэзідэнт пагражаў яшчэ два гады таму. Але зноў у гэтай сістэме, як і раней, толькі ствараюць бачнасць актыўнай работы на спажыўца. Правінцыйныя гарадкі і пасёлкі не прасыхаюць ад штонядзельных кірмашоў, а з трыбунаў розных сходак па рэагаванні на крытыку льюцца абяцанкі перавыканаць усе недасяжныя раней паказчыкі ў нарыхтоўках бульбы, яблыкаў, ягадаў, грыбоў і г.д. Між тым, сапраўдная карціна дзейнасці выглядае ў цьмяных фарбах: армія чынавенства з гандлёвых «канторах» налаўчылася скарыстоўваць дзяржаўную службу на асабістую карысць і выгаду сваіх хаўруснікаў. Усё гэта дае падставу Лукашэнку скаланаць паветра пагрозамі «навесці парадак» у сферы кааперацыі і «вывесці жульё на чыстую ваду». Факты для звыклага спісвання грахоў заганнай сістэмы на канкрэтна падстаўленых асобаў «капае» Камітэт дзяржкантролю Беларусі.

### Для пакупнікоў — дробязь, сабе — мільёны

Пустыя паліцы альбо залежалыя на іх дарагія тавары сталі абавязковымі амаль што ў кожнай вясковай краме. І гэтаму ёсць пэўнае тлумачэнне: у сабекошт прадукцыі закладваліся расходы на ўтрыманне вышэйшага і сярэдняга кіруючага апарату «Белкаапсаюза». Сціплымі гэтыя сумы назваць нельга. 15 мільёнаў 300 тысяч рублёў складаў штомесячны заробак сярод высокапастаўленага чынавенства ў 1998 годзе, што ў цэлым каштавала сістэме ў 38 мільярдаў рублёў. Пры гэтым атрыманцы «царскіх» акладаў (бо сярэднемесячны заробак шараговых працаўнікоў быў ад 2 да 3,5 мільёна рублёў) карысталіся і цэнавой ільготай, паколькі фонд выплатаў не падлягаў падатку на прыбытак.

### Аўталавак усё менш. А лімузіны нарасхват

«Крамы на колах» — аўталаўкі, як адзіная магчымасць для насельніцтва глыбінных вёсак набыць самае неабходнае, хутка застануцца толькі ва ўспамінах. Тэхнічны рэсурс аўтатранспартнай гаспадаркі «Белкаапсаюза» адпрацаваны ўжо на 70 адсоткаў. Зараз з колаў гандлююць на 620 машынах, сярод якіх ніводнай новай. Затое, як і ў прэзідэнцкіх картэжах, не горшыя зараз членавозы ў вярхушкі кааператыўнага гандлю. Толькі за 1997-98 гады парк легкавікоў папоўніўся 62 адзінкамі, пераважна іншамаркамі. А кіраўніцтва «Белспажыўзнешнегандаль» у мінулым годзе на аўтамабіль «Вольва-940» патраціла 27.000 долараў.

Кругленькую суму за «Аўдзі-100» выклала таксама упраўленне нарыхтовак Віцебскага аблспажыўсаюза, якое, аднак, не для сябе старалася — транспарт тут жа быў перададзены кіраўніцтву аблспажыўсаюза.

У 1998 годзе былому кіраўніку праўлення Мінскага аблспажыўсаюза Кісламу былі набытыя кватэра за 900 мільёнаў рублёў і службовая аўтамашына за 696 мільёнаў.

### Інфляцыя як маці родная

Прыхаваўшы ад пераацэнкі 20 кілаграмаў сметанковага масла ў кастрычніку мінулага года, работнікі грамадскага харчавання Гродзенскага райспажыўсаюза прадалі яго сваім знаёмым па 130,4 тысячы рублёў замест ужо падвышанага кошту 160 тысяч. Са складоў Гродзенскай базы «Аблспажыўгаспрадгандаль» хаўруснікі-кааператары прадалі знаёмым 500 кілаграмаў цукру без пераацэнкі па цане 27,9 тысячы рублёў замест рэальнага кошту 45 тысяч. З трохсот кілаграмаў грэцкай крупы для дыябетыкаў «бізнесмены» Магілёўскага райпа 50 кілаграмаў падзялілі паміж сабой. Астатнія 250 кілаграмаў былі прыхаваныя ў краме вёскі Казіна для «патрэбных» людзей. Розніца ад рэальнага кошту на адной адзінцы вагі складала амаль 100 тысяч рублёў. У тым жа гродзенскім «Аблспажыўгаспрадгандлі» на працягу года засталіся схаванымі ад пераацэнкі 16 найменняў мэблі, а таксама шкуркі норкі, калготкі «Омса», станкі для галення «Жылет» — усяго на 156 мільёнаў рублёў па коштах восені мінулага года. Спакусіліся на выгадны прыбытак і работнікі гандлёварозничных складоў Дзяржынскага раёна: пайтара месяца тут «пыліліся» алей, шампанскае, каньяк беларускі, кансервы з мяса курэй.

### Сямейны падрад на «Старой дарозе»

Старадарожскае райпа сумесна з чатырма прыватнымі асобамі, сярод якіх дачка старшыні праўлення Гайдая, у 1996 годзе зарэгістравала закрытае акцыянернае таварыства па разліве мінеральнай вады «Старая дарога». У яго статутным фондзе грашовая доля дачкі старшыні складала 15 працэнтаў. І зусім не дзіўна, што райспажыўсаюз прадаў «Старой дарозе» перапрацоўчы цэх за 229 мільёнаў рублёў, хоць сапраўдная вартасць яго па тагачасным кошце складала больш за 302 мільёны рублёў. Цяпер прыватная фірма разлівае ваду са свідравіны, якую, не маючы ад гэтага ніякіх дывідэндаў, абслугоўвае райспажыўсаюз. А кіруе ЗАТ «Старая дарога» жонка таго ж старшыні праўлення Старадарожскага райспажыўсаюза Гайдая.

### У юрысты — па блаце

За тры апошнія гады ў Гродзенскім аблспажыўсаюзе, дзе за гэты час змяніліся два кіраўнікі, былі выдаткаваныя 592 мільёны рублёў на аплату вучобы 14 студэнтаў, 8 з якіх, па спецыяльнасці «правазнаўства», — дзеці чыноўнікаў сістэмы спажыўкааперацыі і мясцовых органаў улады: начальніка юрыдычнага ўпраўлення Гродзенскага аблвыканкама Раманоўскага, былога старшыні Смаргонскага райвыканкама Янец, старшыну праўленняў Карэліцкага райпа Русецкага і Ваўкавыскага райпа Камара, намесніка старшыні праўлення Свіслвіцкага райпа Сяргеевай, намесніка старшыні Гродзенскага аблспажыўсаюза Шайко. Гэткімі ж спосабамі сталі студэнтамі многія нашчадкі кіраўнікоў уладнай вертыкалі і спажыўкааперацыі Віцебскай вобласці.



Такім чынам, функцыянеры як кралі раней, так і сёння абкрадваюць простых людзей. І праблема ўжо не столькі ў людзях, колькі ў самой дзяржаўнай сістэме, якая дае магчымасць адным красці ў другіх. ■

# Лысая гара



Дадатковыя пісьменніцкія соткі пад бульбу. На другім плане дамы «Узгор'я-2», а за імі вяршыня Лысай Гары



Адбітак гаспадарскай дбайнасці ляжыць на дачным участку пісьменніка **Уладзіміра Ліпскага**



Клопат пра часопіс «Полымя» замінае **Сяргею Законнікаву** ашаляваць хату

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Напрыканцы 60-х гадоў тут з'явіліся садова-дачныя таварыствы «Лысая Гара» і «Узгор'е -1», сябрамі якіх сталі шмат вядомых пісьменнікаў. Тады і з'явілася на свет ананімная паэма, аўтары якой у лепшых традыцыях народнага жарту абмалявалі каланізацыю майстрамі верша і прозы неўрадлівай зямлі. За прамінулыя 30 гадоў на Лысай Гары шмат што змянілася: нямала людзей, што былі героямі знакамітага твора, сышлі ў вечнасць, змяніўся знешні выгляд дамкоў, некалі збітых з дошак з-пад тары, і сёння цяжка знайсці тут прыкметы, пазначаныя ў кплівых радках «Сказа пра Лысую Гару». Блукаючы па дарожках, мы сустрэлі толькі двух паэтаў: Васіля Зуёнка, які пільнаваў свае цяпліцы з памідорамі, і Анатоля Вярцінскага, які дзеля творчага натхнення частаваўся клубнікамі, спадзяемся, што на ўласным участку.

Побач са старымі пісьменніцкімі дачамі ў 1984 годзе пад назвай «Узгор'е-2» атрымалі па 4 соткі пад сядзібу болей за 100 пісьменнікаў і паэтаў. Без усялякага перабольшання можна сцвярджаць, што гэта адзінае месца ў свеце з такой высокай шчыльнасцю схільных да прыгожага пісьменства людзей. Пану Богу, відаць, даволі цяжка абіраць тут адрасата для даравання сваёй «іскры божай», але, магчыма, ён дзеліць яе пароўну паміж усімі жадаючымі.

Лысая Гара знаходзіцца за тры кіламетры ад старажытнага Заслаўя, куды пры патрэбе напоўну можна проста дабрацца на ровары. Да чыгуначнай станцыі «Зялёнае» адсюль 4 кіламетры, да аўтобуснага прыпынку — 2, да возера — 4, да мінскага галоўпаштамта — 35.

Напамінкам пра даўнія часы стаяць у полі магутныя дубы, і высіцца над усімі ўчасткамі зарослая лесам вяршыня Лысай Гары. Было тут раней шмат прыгожых маленькіх азёркаў, амаль усе зараз павысыхалі. Засталося адно ў межах дачаў, і яно захоўваецца дзякуючы высокай экалагічнай свядомасці нашых пісьменнікаў. ■



Возера ледавіковага паходжання з крынічнай падпіткай. У гэтыя спякотныя дні яно дужа абмялела



Дачная мураванка празаіка **Міхаіла Кацюшэнкі**



Фазэнда вядомага перакладчыка з іспанскай мовы **Карласа Шэрмана**



Сядзіба паэта **Валянціна Лукшы**

Гэты домок будаваў гістарычны пісьменнік **Леанід Дайнека**



Прытулак паэта **Генадзя Пашкова**

СПЕЦСЛУЖБЫ

## До свидания. До новых встреч?

### В Латвии и Литве сурово разобрались с бывшими сотрудниками КГБ

**Отдел информации, BNS**

Более 250 досье на своих подчиненных, работавших ранее в структурах советского КГБ, представили работодатели в центр расследования преступлений геноцида и резистенции жителей Литвы. Примерно четверть бывших сотрудников этой организации уже потеряли работу.

Сообщать о сотрудниках, работавших ранее в советских структурах госбезопасности, работодателей обязывает вступивший в силу с 1 января этого года закон об оценке КГБ и ограничении трудовой деятельности бывших кадровых работников этой организации. Закон запрещает бывшим кадровым работникам КГБ в течение 10 лет работать в различных учреждениях власти, правоохранительных органах, на предприятиях связи, в банках, дипломатических службах и на стратегических предприятиях. По численности бывших кадровых работников советского КГБ «рекордсменом» стала система внутренних дел Литвы, сообщившая о более 50 сотрудниках-кэгэбистах. Немало их также работало в системе прокуратуры, около 10 — на Игналинской АЭС.

Предположительно в Литве теперь проживает около 400 бывших сотрудников КГБ.

Похожие меры против сотрудников бывших спецслужб приняты и в Латвии. Лица, имевшие отношение к советскому КГБ, более не смогут работать в учреждениях безопасности Латвии. В службах безопасности не смогут также работать лица, которые после 13 января 1991 года действовали в компартии или в других запрещенных в Латвии организациях. ■

ПАМЯЦЬ НЯМІГІ

## Памылкі вучаць...

**Леанід СІМАНАЎ**

Не дапусціць падчас правядзення фестывалю «Славянскі базар у Віцебску» ніякіх надзвычайных здарэнняў — такое патрабаванне прад'явіла да арганізатараў фестывалю камісія па надзвычайных сітуацыях пры Віцебскім аблвыканкаме. Да 20 ліпеня — дня адкрыцця свята — павінны быць праведзены мерапрыемствы дзеля бяспекі яго ўдзельнікаў. Упершыню з ліпеня 1988 года, калі ў горадзе адбыўся першы фестываль, сёння правяраецца ступень зношанасці канструкцыяў Летняга амфітэатра. Лесвіцы на спусках да яго даўжаткова абсталёўваюцца асобымі раздзяляльнымі поручнямі, якія ў выпадку панікі змогуць рассячы натоўп на менш магутныя патокі. Апрача таго, на падыходах да амфітэатра не будзе ранейшага шырокага продажу гарэлкі на разліў. ■

ПОШТА

## Чтобы пойти на пенсию — надо стать инвалидом!

**Открытое письмо Президенту Республики Беларусь г-ну Лукашенко А.Г.**

Уважаемый Президент! Я очень «благодарен» Вам за подписанный Декрет от 29 апреля 1999 года за номером 21, где Вы одним своим росчерком перечеркнули 5 лет моей жизни. Именно 5 лет, так как эти годы останутся в моей памяти, если я их переживу, черным, грязным, никогда не смоющимся пятном.

В чем же дело, спросите?

А дело в том, что именно в этом 1999 году я должен был идти на пенсию по льготам, как участник ликвидации последствий аварии на ЧАЭС в 1986-87 гг. (ст.19 Закона РБ). А сейчас, чтобы пойти на заслуженную пенсию, мне необходимо стать инвалидом (п.15 Декрета N21), так как в то время деления на 5, 10, 15-километровые зоны не существовало. Была одна зона — 30 км. В этой зоне мы, в том числе и я, работали и жили четыре месяца, с 24.10.86 по 24.02.87 гг. Воинская часть 98312 (командир Карпинович) располагалась в лесу на территории Украины (сейчас она ликвидирована) в Киевской области вблизи дер.Оранное на трассе Киев—Чернобыль. Удостоверение ликвидатора за №497494 мне выдано Пружанским РВК в 1991 г., перерегистрировано в 1995 году. Сам я родился в 1944 году 22 марта в Германии (мать была угнана немцами).

Вот так-то, г-н Президент. Так что Ваш декрет — еще одна попытка втоптать в грязь наше прошлое, мое горькое прошлое. Кроме того, Вы лишились еще нескольких своих избирателей.

***КАДУКА С.Н., г.Пружаны Брестской области***

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 562 Нумар падпісаны ў друк 22/06/99 (15:00) Наклад — 17.630